DISTRICTUS
# ПАВЕТ
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ
№ 4 (8) КРАСАВІК 2002 г.

## Отан Гедэман. Да 115-годдзя з дня нараджэння і 65-годдзя з дня смерці

Сярод даследчыкаў мінулага Браслаўшчыны асобае месца належыць Отану Гедэману. На гэтае месца ніхто не зможа прэтэндаваць, колькі б не мінула часу. Ён быў першым, хто на сур'ёзным навуковым узроўні пачаў даследваць гісторыю нашага краю. Працаваў апантана і надзвычай плённа, падрыхтаваўшы за кароткі час 8 манаграфій. Кнігі О.Гедэмана адметны і сваімі літаратурнымі, публіцыстычнымі вартасцямі. Шкада толькі, што прачытаць іх цяпер можа далёка не кожны: выданні гэтага аўтара даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, ды і польская мова, на якой пісаў О.Гедэман, для беларускага чытача з'яўляецца дадатковым бар'ерам. Даўно наспела неабходнасць выдаць важнейшыя кнігі гісторыка ў перакладзе на беларускую мову.

Кніг О.Гедэмана не абміне ніводны сур'ёзны даследчык мінулага Браслаўшчыны. У іх утрымліваецца велізарнейшая колькасць звестак, разам з тым яны патыхаюць любоўю да Браслаўшчыны, яе герояў і звычайных людзей.

За кароткі час адведзены О.Гедэману Богам і лёсам, ён здолеў зрабіць вялізную справу, у якую ўклаў сябе да рэшты, пайшоўшым з жыцця зламаным фізічна, але поўным унутранай энергіяй, творчых ідэй і задумак.

*О.Гедэман ... быў ідэалістам і ў сваёй працы шукаў адзінае толькі вобразы даўняй мінуўшчыны, адкрываў і перадаваў яе сапраўднае аблічча, знаходзіў магчымасць вышукваць у гісторыі павучальныя прыклады для жывучых і будучых пакаленняў. Ён меў вялікае замілаванне да краявідаў і людзей гэтай зямлі, на якой знайшоў сабе новую прафесію і з якой зросся, знітаваўся вузамі бескарыснай, сыноўскай любові. Усё гэта выклікала жаданне зафіксаваць мінуўшчыну працай сваіх сэрца, думак, пяра ў выглядзе артыкулаў і кніг. Гэта нерукатворныя помнікі, якія будуць існаваць доўга, заўсёды.*

Рышард Мяніцкі, гісторык, прафесар Віленскага ўніверсітэта 1937 г.

*Гедэман даў чытачу рэдкія для нашага часу гістарычныя кніжкі, якія маюць значную гістарычную вартасць. Не хаваў ён цёмных бакоў мінулага, аднак адначасова адкрываў пазітыўныя з'явы, якія сёння нас асвятляюць. Вось чаму працы Гедэмана жывяць цяпер гістарычную свядомасць чвэрці мільёна людзей. У Браславе, Друі, Дзісне, Глыбокім бачна гэта ўздзеянне. Кнігі Гедэмана з'яўляюцца дасканалым праяўленнем навуковай і краязнаўчай дзейнасці.*

Станіслаў Гербст, гісторык, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта 1937 г.

Otton Hedemann

*Як, напрыклад, батанік не пазнае ніколі ўсіх цудаў прыроды, калі засяродзіць сваю ўвагу толькі на даследваннях гонкіх пальмаў, каралеўскіх руж, пышных лілей, ігнаруючы сціплыя нагаткі ці валошкі, так будзе няпоўнай і праца даследчыка мінулага, які апроч Лондана ці Варшавы не здолее, не адважыцца дабрацца да Браслава ці Дзісны, каб пашукаць тут смутку і радасці, працы і думкі, усёй той фізічнай і маральнай атмасферы, якой жылі і дыхалі мясцовыя людзі – нашы з вамі браты.*

# ДАСЛЕДЧЫК ГІСТОРЫІ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

Аўтар шэрагу кніг і артыкулаў па гісторыі Браслаўшчыны, сярод якіх вылучаецца грунтоўнае, ёмістае даследаванне "Гісторыя Браслаўскага павета", таленавіты краязнаўца, гісторык Отан Гедэман нарадзіўся 29.04.1887 г. ў Беларускім Палессі, на тэрыторыі тагачаснага Рэчыцкага павета Мінскай губерні. Бацька яго – Магнус Ян паходзіў з дацкіх немцаў. На прафесіі інжынер, ён прыехаў на Палессе, дзе ў XIX ст. пачалі разгортвацца меліярацыйныя работы. Маці – Ядзвіга Андрэеўская была полькай і паходзіла з Прыдзвіння. Гедэман вучыўся спачатку ў гомельскай класічнай гімназіі, пазней на гісторыка-філалагічным факультэце Кіеўскага ўніверсітэта. У пачатку 20-х гадоў працаваў настаўнікам у вясковых школах, з 1922 г. – у Браслаўскай пачатковай школе.



Бацька Отана Гедэмана

Працуючы з вучнямі, О.Гедэман звярнуў увагу на тое, што дзеці заўсёды больш уважліва слухаюць і лепш запамінаюць гістарычныя падзеі, якія адбываліся ў родных мясцінах. Таму ён стаў імкнуцца падмацаваць агульны матэрыял звесткамі з гісторыі Браслаўшчыны. Паступова нарадзілася ідэя напісаць асобную кнігу па гісторыі края. Гэту думку падтрымаў школьны інспектар Казімір Прухнік, які ўзяў на сябе ўсе клопаты па арганізацыйных пытаннях, што ўзнiклі на пачатку працы.

У 1928 г. О.Гедэман прыступіў да напісання першай кнігі. Гэта была самаадданая праца, якая патрабавала вялікіх намаганняў – часам па 14 гадзін у суткі праводзіў даследчык за працай. Спатрэбілася 400 дзён і вечароў напружанай працы ў віленскіх архівах, бібліятэках, прыватных, царкоўных зборах, каб у 1930 г. з'явілася надрукаваная ў Вільні "Гісторыя Браслаўскага павета" – грунтоўнае, амаль на 500 старонак даследаванне. Выданне было здзейснена за сродкі Браслаўскага сойміка.

Узяўшы межы старажытнага Браслаўскага павета, які існаваў з XV ст., О.Гедэман прасачыў палітычныя, ваенныя, культурныя, царкоўныя, асветніцкія, гаспадарчыя, грамадскія працэсы, якія тут адбываліся. Асобная частка кнігі прысвечана гісторыі найбольш значных ці найбольш цікавых у гістарычным сэнсе населеных пунктаў. Змястоўныя артыкулы прысвечаны Браславу, Друі, Дрысвятам, Іказні, Бяльмонтам.

Кніга змяшчае 49 каштоўных здымкаў, ілюстрацый, карт. Вялікі фактычны матэрыял у ёй падмацаваны канкрэтнымі спасылкамі на крыніцы, што надае яшчэ большую каштоўнасць усёй працы.

З кнігі "Гісторыя Браслаўскага павета", якую можна лічыць найбольш змястоўнай і каштоўнай працай О.Гедэмана, пачалася яго навуковая дзейнасць. Яна працягвалася ў Вільні, аднак Гедэман ніколі не парываў з краем, які шчыра палюбіў і з якім па-ранейшаму звязвала праца.

Далейшыя даследванні пашырыліся на тэрыторыю значна большую, чым тэрыторыя колішняга Браслаўскага павета. Гедэман вывучае мінулае суседніх рэгіёнаў, гісторыя якіх мела агульныя рысы з гісторыяй Браслаўшчыны.

У 1934 г. выйшла з друку яшчэ адна грунтоўная праца О.Гедэмана – "Дзісна і Друя – магдэбургскія гарады", дзе вельмі падрабязна разглядаюцца ўсе аспекты гістарычнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця Дзісны і Друі – гарадоў на Дзвіне, якія ў XVII –

## З прадмовы О.Гедэмана да кнігі "Гісторыя Браслаўскага павета".




**Думка аб напісанні гэтай кнігі прыйшла, калі аўтар працаваў настаўнікам Браслаўскай агульнай школы.**

**Міністэрская праграма выкладання гісторыі заклікае акцэнтаваць увагу на матэрыялах, якія расказваюць аб мінулым бліжэйшых да вучняў тэрыторый. Асабліва гэта рэкамендуецца для малодшых школьнікаў, для якіх паняцці народ, дзяржава, гістарычныя перыяды, нават такія канкрэтныя гарады як Варшава, Кракаў, ці выдатныя асобы з'яўляюцца абстракцыяй. Наадварот, інстынктыўна дзеці маюць замілаванне да наваколля, ім знаёмага і блізкага.**

**Акрамя таго, кожны настаўнік кожны год павінен раскрываць тэму "Наша мясцовасць, яе мінулае і помнікі".**

**Трэба было выконваць палажэнні праграмы. Для аўтара Браслаўшчына не з'яўляецца родным краем: таму ён не мог мець звестак па яго гісторыі, не мог гэтай гісторыяй раней зацікавіцца. Зазірнуў у агульныя гістарычныя працы, але нічога ў іх не знайшоў. Спрабаваў збіраць звесткі з успамінаў "тутэйшых" людзей, у мясцовай інтэлігенцыі. Урэшце, пачаў больш грунтоўна збіраць мясцовыя аповяды. Аднак неўзабаве пераканаўся, што гэты шлях амаль нічога не дае. Мясцовыя аповяды, калі і ўдавалася запісаць, выглядалі настолькі неpraўдападобнымі, блытанымі, малапрыдатнымі, што карыстацца імі не ўяўлялася магчымым. Тады скарыстаўся парадай школьнага інспектара Казіміра Прухніка і зазірнуў у віленскія архівы. Па-дылетанцку нахапаў колькі дзесяткаў разрозненых згадак, дат, фактаў, якія датычыліся Браслаўшчыны, адначасова адзначыўшы, што архівы відавочна хавалі ў сабе велізарныя багацці па гісторыі рэгіёна.**

**З такім багажом зноў стаў аўтар перад вучнямі. Неўзабаве стала бачна якое вялікае, непадробнае зацікаўленне узбуджаюць у маладых слухачах нават самыя неістотныя падрабязнасці, калі яны звязаны з Браславам ці Друяй, любой іншай мясцовасцю. На перапынках дзеці дзяліліся ўражаннямі ад пачутага на ўроку гісторыі – раней з падобнымі рэчамі аўтар усваёй практыцы не сустракаўся. Знішчэнне Браслава ў 1794 г. выклікала ў вучняў большую рэакцыю, чым бітва пад Рацлавічамі і ўзяцце Варшавы. Забойства ў Браславе расійскімі салдатамі ў 1775 годзе войта Зямца, нашчадкі якога і зараз жывуць на Браслаўшчыне, таксама было для дзяцей першачарговым здарэннем. Заставалася толькі гэтыя лакальныя факты звязаць з агульнай хадой гісторыі, на фоне мясцовых выпадкаў адлюстраваць агульныя працэсы. Пры такім падыходзе гісторыя губляла абстрактны, кніжны характар.**

**Трэба было сабраць як мага болей такіх мясцовых матэрыялаў, а потым на яго падставе ажывіць гадавы курс. Такім чынам напісанне гісторыі Браслаўшчыны мела дыдактычную прычыну.**

XVIII стст. былі значнымі рамеснымі і гандлёвымі цэнтрамі.

Больш паглыбленае вывучэнне асобных гістарычных пытанняў прыводзіць О.Гедэмана да стварэння такіх прац, як "Даўнія пушчы і воды", "Школа Валер'янаўская Лужкоўскіх піяраў", "Граф Мануцы", "Завяшчанні браслаўска-дзісненскія XVII – XVIII стст. як гістарычныя дакументы", "Глыбокае". Апошняя кніга О.Гедэмана – двухтомнік "Белавежская пушча" – засталася незавершанай. У 1937 г. даследчык раптоўна памёр у Вільні.

Кнігі О.Гедэмана адразу выклікалі цікавасць у грамадскасці, прыхільна былі сустрэты і навукоўцамі. У водгуках адзначалася, што без урону навуковасці працы О.Гедэмана вызначаюцца жывой, вобразнай мовай, напісаны з рысамі публіцыстычнасці, палемічнасці.

У 1936 г. Польскае краязнаўчае таварыства ўзнагародзіла О.Гедэмана Ганаровай граматай за выдатныя даследаванні на ніве краязнаўства. Дарэчы, О.Гедэман быў арганізатарам Браслаўскага аддзялення краязнаўчага таварыства.

Пакінуўшы педагагічную працу, О.Гедэман не ставіў сваёй мэтай зрабіць навуковую кар'еру. Усю энергію ён накіраваў на гістарычныя даследаванні і напісанне кніг, над якімі працаваў да апошніх дзён жыцця. Пасля смерці Отана Гедэмана жыхары Глыбокага і Дзісны назвалі яго прозвішчам вуліцы ў сваіх гарадах. Найлепшай жа памяццю аб гэтым чалавеку застануцца яго кнігі. Выдадзеныя ў 30-я гады невялікім тыражом, яны, на жаль, сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Нават у буйнейшай рэспубліканскай бібліятэцы ў Мінску ёсць не ўсе кнігі даследчыка...

Друкуецца паводле кнігі «Памяць. Браслаўскі раён. Мн., 1998. С. 653-654

# "У маім сэрцы ён заўсёды жывы..."

## (Ядзвіга Гедэман успамінае)

З Отанам Гедэманам я пазнаёмілася ў пачатку 1930 г. Я была студэнткай Віленскага ўніверсітэта і падзарабляла на жыццё карэктарскай працай. Нехта параіў Гедэману, які рыхтаваў для выдавецтва сваю першую кнігу "Гісторыя Браслаўскага павета", звярнуцца да мяне. У студзені 1930 г. адбылася наша першая сустрэча. Я ўбачыла вельмі высокага, прыгожага чалавека, які звярнуўся да мяне так, нібыта мы былі даўно знаёмы. Пазней я адзначыла, што камунікатыўнасць была адной з прывабных рыс яго характара. О.Гедэман лёгка знаходзіў агульную мову і з інтэлігентамі і з простымі людзьмі, вельмі ахвотна ішоў на кантакт і хутка сходзіўся з новымі знаёмымі. Спачатку я глядзела на О.Гедэмана знізу ўверх і літаральна (я была мініяцюрнай побач з ім), і ў пераносным сэнсе, бо ён перадусім быў для мяне аўтарам цэлай манаграфіі. Мяне захапіла праца над ёй, прычым не толькі прафесійная карэктарская, праз змест кнігі адкрываўся цэлы свет гісторыі, да гэтай пары незнаёмы мне. Атрымлівала нібыта другую адукацыю. Працы над рукапісам было шмат. Калі вычытала першую старонку, аказалася, што выпраўленняў болей, чым аўтарскага тэксту. Гэта ўразіла О.Гедэмана. Справа ў тым, што на той час ён дрэнна ведаў польскую мову, трохі навучыўся ёй у маці. Выхоўваўся і жыў у рускай культурнай традыцыі. Вельмі любіў рускую літаратуру, асабліва А.Чэхава, пад рукой заўсёды меў трохтомнік яго твораў. Шкада, што гэта выданне не захавалася пасля смерці мужа, згубілася пры частых пераездах. Дарэчы, з дзятвой у Браславе мог размаўляць па-беларуску. Магчыма, ведаў гэту мову яшчэ з Палесся.



**Отан і Ядзвіга Гедэманы. Вільня. 1930-я гады.**

**...Сыраваты рукапіс, поўны памылак і недапрацовак арфаграфічных і стылістычных, патрабаваў літаратурнай апрацоўкі. Аўтар здолеў гэта зрабіць дзякуючы Ядвізе Вахоўскай, студэнтцы гуманістычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта. Яна з выключнай інтэлігентнасцю, энергіяй і запалам выпраўляла незлічоныя заганы рукапісу, выканаўшы цяжкую і няўдзячную карэктарскую працу.**

**З прадмовы О.Гедэмана да кнігі «Гісторыя Браслаўскага павета»**

Сустрэчы з О.Гедэманам станавіліся больш частымі – гэтага патрабавала праца над рукапісам. Кожны тыдзень аўтар прыязджаў з Браслава і прыпыняўся ў Вільні на некалькі дзён. Паступова адносіны сталі ўсё больш блізкімі. О.Гедэман ужо не хаваў свайго пачуцця, не вытрымала і я. У красавіку ён прапанаваў выйсці за яго замуж. Такім чынам усё адбылося бліскавічна – ад першага знаёмства да нашага раніння прайшло менш за 4 месяцы. Я ведала, што О.Гедэман жанаты. Ён ажаніўся яшчэ да рэвалюцыі, меў дзвюх дачок, аднак шчасця ў шлюбе не знайшоў. Першая жонка зусім не цікавілася працай мужа, была абыякавай да новага захаплення, якое неўзабаве стала сэнсам яго жыцця. Гэта жанчына любіла вясёлыя кампаніі, любіла ездзіць па гасцях. Разышліся яны спакойна.

Шлюб вырашылі браць у пратэстанцкай царкве па вул.Завальнай. 22 красавіка з невялікім колам сяброў пад'ехалі да храма, але там знаходзіліся госці нейкага міжнароднага з'езда ці кангрэса. Святар не змог адарвацца ні на хвіліну. Вярнуліся на кватэру, справілі сціплую вечарыну. На наступны дзень паехалі ў царкву толькі са сведкамі.

Напрыканцы лета, ужо пасля выхаду кнігі, паехалі ў Браслаў. Спачатку знялі пакой у Антона Зямца ў в.Дубкі, побач з мястэчкам. Гаспадары былі простыя, сардэчныя людзі, з імі мы блізка сышліся. Потым, калі пераязджалі з Вільні, не аднойчы спыняліся ў іх.



**Пратэстанцкі храм на вул.Завальнай у Вільні, у якім узялі шлюб Отан і Ядзвіга Гедэманы.**

*Паштоўка пач.XX ст. з калекцыі Баслаўскага музея*

Аднаго разу не змаглі прыехаць самі, адправілі да гаспадароў маленькага сына. Давяралі Зямцам як сваякам. Запомнілася такая акалічнасць: гаспадыня: не ведала польскай мовы – увесь час размаўляла па-беларуску.

Праз нейкі час перабраліся ў Браслаў, жылі на вул.Пілсудскага. Тут у нас у жніўні 1931 г. нарадзіўся сын Магнус. Назвалі яго гэтак невыпадкова. У Гедэманаў існавала даўняя традыцыя: першанцаў-хлапчукоў называць пачарзе ці Отанамі ці Магнусамі. Дзед Отана Гедэмана быў таксама Отанам, бацька – Магнусам, сын павінен быў насіць імя Магнус. Мы не парушылі традыцыі.

У Браславе жылі нядоўга, але гэта быў шчаслівы час. Асабліва добра было цёплай парой у Дубках. Жылі па-сялянску, рана ўставалі, гатавалі ежу на паветры. Муж надзвычай любіў прыроду. Расказваў, як часта з бацькам хадзіў па лясах і балотах Палесся. На Браслаўшчыне палюбіў азёры. Асабліва захапляўся рыбнай лоўляй. Рыбалка ў той час была платнай, грошай жа шмат не мелі. Арандатар Браслаўскіх азёраў Арон Шнэер дазволіў Гедэману лавіць рыбу вудай бясплатна. Аб гэтым клапаціўся браслаўскі староста Зеліслаў Янушкевіч, які паважаў мужа. Вельмі часта О.Гедэман лавіў рыбу на востраве Чайка. Да слова, ў яго існавала дзіўная завядзёнка: абавязкова пералічыць улоў. Муж нядрэнна граў на піяніна. Свайго інструмента мы не мелі, памузыцыраваць ён хадзіў у адзін з рэстаранаў.

> **...Удзячны таксама маёй каханай жонцы, адданай сяброўцы па працы за педантызм у арфаграфічнай і стылістычнай карэктуры. Гэта неаднойчы выклікала ў мяне прыступы шалёнства, але мае паражэнні былі настолькі звыклымі, настолькі заслужанымі.**
>
> **З уступу О.Гедэмана да кнігі «Даўнія пушчы і воды»**
>
> **Маёй каханай жонцы прысвячаю гэту працу.**
>
> **Прысвячэнне О.Гедэмана жонцы ў кнізе «Дзісна і Друя магдэбургскія гарады»**

У Браславе нямала з кім падтрымлівалі сяброўскія адносіны. Многія паважалі мужа за кнігу. Часта ў госці прыходзіў яўрэй Лейба з жонкай. Жонка навучыла нас неяк па-асабліваму смачна гатаваць рыбу. Не прыпомню, каб хто крыўдзіўся на мужа, ладзіць ён мог з усімі, наўрад ці меў пры такім характары ворагаў.

Першая жонка О.Гедэмана выехала з Браслава на Беласточчыну. Дочкі – Марта і Гелена ( мы звалі яе Люсяй) – вучыліся ў Вільні і па-сутнасці засталіся без нагляду. Бацька забраў іх у Браслаў. Дзяўчынкам трэба было працягваць гімназічную адукацыю і гэта стала прычынай пераезду нашай сям'і ў Друю, дзе пры кляштары дзейнічала гімназія. Пасяліліся на вуліцы Курляндскай у доме старавера. У гэты час муж не быў звязаны з канкрэтным месцам працы. Ён марыў працягваць даследчую працу. Гэта стала магчымым, дзякуючы стыпендыі, выдадзенай Нацыянальным Фондам. Стыпендыятам гэтага фонда Гедэман заставаўся да канца жыцця. У школу ён не вярнуўся, хаця быў добрым настаўнікам, любіў свой прадмет, умеў працаваць з дзецьмі. Урокі праводзіў не зусім звычайна. Часта ўстаўляў у свой аповяд розныя смешныя гісторыі, жарты, – ведаў іх процьму. Дарэчы, Гедэман добра вучыўся ва ўніверсітэце, але дыплома не меў. Не скла́ліся адносіны з адным з прафесараў (здаецца, гэта быў Доўнар-Запольскі). У нечым Отан не саступіў яму, і прафесар сказаў: "Гедэман мяне запомніць!" Гедэман не змог здаць прафесару экзамен.



**Ядзвіга Гедэман і Станіслаў Пятушка. Канстанцін-Езёрны (Польшча). 1999 г.**

Муж заўсёды шмат працаваў. Уставаў рана, звычайна а палове пятай. Спачатку ішоў на прагулку, потым снедаў і садзіўся за стол. Над паперамі мог сядзець па-доўгу. З Друі часта ездзіў у Вільню – у архівы і бібліятэкі. З паездкі прывозіў 2–3 велізарныя фаліянты – іх пазычалі ў якасці выключэння.

Неўзабаве з Друяй давялося развітацца. Сям'я пераехала ў Вільню, дзе муж без перашкод мог працаваць з матэрыяламі, а дзяўчаты працягваць вучобу. Спачатку пасяліліся ў асобным доме па вул.Кальварыйскай, у якім былі 4 пакоі і кухня. У гэты час з намі жыў мой брат. Праз некалькі гадоў ад сям'і аддзяліліся дарослыя дочкі, выехаў мой брат і мы перабраліся ў меншую кватэру па вул.Вавульскай.

Запомніўся 1935 год – адзін з самых паспяховых. Муж атрымаў ганарары за некалькі выданняў і мы змаглі дазволіць сабе



**Вільня. Тагачасная вул.Адама Міцкевіча. Від на катэдральны касцёл. 20-30 гады XX ст.**

*Паштоўка з калекцыі Браслаўскага музея*

набыць фартэп'яна. У гэтым жа годзе ў Вільні праходзіў прадстаўнічы з'езд польскіх гісторыкаў. Быў запрошаны і О.Гедэман, але ён адчуваў сябе дрэнна і не пайшоў. Памятаю, ён ляжаў у ложку і слухаў радыётрансляцыю з першага пасяджэння. З уступным словам выступіў прафесар Кутшэба. Ён стаў называць выдатных даследчыкаў гісторыі Віленшчыны. У самым пачатку было названа прозвішча Отана Гедэмана. Ад нечаканасці муж усхапіўся з ложка, стаў хадзіць па пакоі, вочы заблішчэлі. У гэты момант ён быў шчаслівым.

Аднак паступова хваробы бралі сваё – муж слабеў, усё больш здаваў. Колькі памятаю яго – заўсёды шмат курыў і вось дыягназ урачоў – рак лёгкіх... Не верыў страшнаму дыягназу да апошняга. Аднак...

Дзеці О.Гедэмана не вельмі цікавіліся спадчынай бацькі. Сын Магнус, да слова, быў адным з кіраўнікоў авіякампаніі LOT. Невядома, з якой прычыны ён застрэліўся ў сваім кабінеце. Свайго сына ён назваў Оскар, тым самым парушыўшы даўнюю традыцыю Гедэманаў. Оскар жыве ў Кракаве – ён перакладчык літаратурных твораў з французскай мовы.

Так здарылася, што Отан Гедэман дарагі толькі мне – у маім сэрцы ён заўсёды жывы.

Запісаў 01.12.1999 г. Кастусь Шыдлоўскі. г.Канстанцін-Езёрны, непадалёку ад Варшавы. Сустрэчу арганізаваў Станіслаў Пятушка (Варшава).

# Матэрыялы да біяграфіі О.Гедэмана ў зборах Аддзела рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве

У архіве даследчыка, які зберагаецца ў бібліятэцы, ёсць раздзел "Карэспандэнцыя О.Гедэмана". Ён складаецца са стоса лістоў (у тым ліку чарнавікоў) і паштовых картак – перапіска гісторыка з іншымі даследчыкамі, рознымі арганізацыямі і ўстановамі, а таксама блізкімі. У гэтай карэспандэнцыі шмат звестак, якія дазваляюць удакладняць асобныя старонкі біяграфіі О.Гедэмана.

Вядома, што пасля выхаду ў чэрвені 1930 г. першай кнігі О.Гедэмана "Гісторыя Браслаўскага павета" даследчык не вярнуўся да працы ў школе. Да канца жыцця ён з'яўляўся стыпендыятам Фонда нацыянальнай культуры (ФНК), а таксама атрымліваў некаторыя іншыя стыпендыі. У карэспандэнцыі шмат лістоў да кіраўніцтва фонда. З іх бачна, што ў О.Гедэмана скламіся добрыя адносіны з кіраўніцтвам ФНК – дактарамі Міхальскім і Рэўтам. Сваю першую стыпендыю гісторык атрымаў увосені 1930 г. на 34 месяцы для правядзення даследванняў па гісторыі Дзісеншчыны. На рашэнне фонда паўплывалі станоўчыя водгукі на "Гісторыю Браслаўскага павета", а таксама дапамога нам невядомага Антона Жонда. О.Гедэман сур'ёзна "захварэў" гістарычнымі даследваннямі і не меў жадання вяртацца ў школу. Пра гэта Гедэман пісаў некалькі разоў. У прыватнасці, ён адзначаў сваю фізічную і духоўную адарванасць ад школы, ад новых праграм выкладання, на яго думку: *"...вяртанне ў школу – гэта страта і для мяне і для грамадства, бо толькі ў навуковых даследваннях змагу найбольш поўна рэалізаваць свае інтэлектуальныя магчымасці..."* Дарэчы, О.Гедэман быў такі і талентавітым педагогам. Пра гэта сведчаць розныя крыніцы, а з перапіскі даведваемся, што пэўны час Гедэман узначальваў браслаўскую 7-класную школу, меў некалькі прапаноў перайсці на працу школьнага інспектара.

Атрымліваць стыпендыю О.Гедэман пачаў з лістапада 1930 года. У гэты час ён планаваў *"...стала жыць у Браславе, а ў Вільню выязджаць для архіўнай працы..."* У пачатку 1933 года О.Гедэман з сям'ёй пераязджае ў Друю. Сярод карэспандэнцыі ёсць некалькі лістоў, напісаных у Друі. У лісце да кіраўніцтва ФНК ад 20 красавіка 1939 года гісторык нагадвае, што да канца стыпендыі застаецца 4 месяцы, а далей аргументавана просіць падтрымаць і надалей яго даследчую дзейнасць. Акрамя асноўнай тэмы гісторыі Дзісеншчыны, у яго намеціліся іншыя кірункі, па якіх у архівах багата матэрыялаў: маскоўскія войны, 1795 год, паўстанне 1831 г., валер'янаўская школа ў Лужках, вайна 1812 года, унія, нацыянальныя меншасці, гісторыя паселішчаў, гісторыя адукацыі ў Белай Русі па матэрыялах Віленскай навучальнай акругі. Як бачна, для О.Гедэмана любая гістарычная тэма была цікавай, ён ішоў па некранутаму полю і прагнуў зрабіць як мага болей. О.Гедэман прызнаваўся: *"...мне прыкра пісаць гэты ліст, які можна трактаваць як празмернае самаўсхваленне, што на самай справе не адпавядае майму характару, але ад маіх аргументаў залежыць барацьба за магчымасць працягваць свае даследванні..."*

О.Гедэман атрымаў новую стыпендыю і змог працягваць свае даследванні. Памеры стыпендыі адпавядалі заробкам працаўнікоў бюджэтнай сферы. Яны дазвалялі гісторыку забяспечваць жыццёвыя патрэбы і ўтрымліваць сям'ю. Першая стыпендыя складала каля 250 злотых у месяц. Пазней гэта сума павялічалася, але неістотна. Напрыклад, гадавая стыпендыя 1.IX.1934 – I.IX.1935 гг. складала 3600 злотых, ці 300 злотых у месяц, наступная выплата павялічылася да 3900 злотых ці 342 злотых у месяц.

У лісце да кіраўніцтва ФНК ад 24 ліпеня 1933 г., напісаным з Друі, О.Гедэман паведамляў, што ім падрыхтаваны два тамы з задуманай трылогіі "Над Дзвіною". Першы том прысвечаны Дзісне і Друі, другі – даўнім пушчам і водам прыдзвінскага рэгіёна. Праца над трэцім томам яшчэ наперадзе. Кніга пад папярэдняй назвай "Працаўнікі" павінна была расказаць аб простых людзях Дзісеншчыны: рамесніках, сялянах, местачкоўцах, рукамі якіх ствараліся багацці края. Як шкада, што О.Гедэман не здзейсніў такі цікавейшы намер. О.Гедэман адзначаў,што, жывучы ў Друі, надзвычай цяжка падрыхтаваць чарговыя кнігі да друку, а таксама складана праводзіць далейшыя даследванні, у сувязі з гэтым *"...далейшае знаходжанне тут губляе ўсялякі сэнс..."* На гэты час

## З уступу О.Гедэмана да кнігі "Дзісна і Друя магдэбургскія гарады."




**...Аднак разам з велізарнымі гарадамі-планетамі існуюць незлічоныя Ашмяны, Смаргоні, Друі, Браславы і Мейшаголы, гаротныя гарадскія паселішчы, вакол якіх таксама віравала процьма меншых спадарожнікаў – вёсак і засценкаў. Гэтыя гарадкі давалі наваколънаму люду прытулак падчас ваенных завірух, гуртавалі яго ў святынях, лучылі на таргах і кірмашах. Яны з'яўляліся адзіным сведчаннем здабыткаў людскога духу, вогнішча якога аб'ядноўвала шэрыя воласці з паняццем Народа і Дзяржавы.**

**Мне нават здаецца, што для пазнання сапраўднага зместу мінулых часоў, для раскрыцця суцэльнага гістарычнага палатна больш мэтазгодна даследваць менавіта гэтыя маленькія людскія грамады.**

## З прадмовы О.Гедэмана да кнігі "Дзісна і Друя магдэбургскія гарады".

**Увосені 1928 г. па заказу Міністэрства веравызнанняў і публічнай асветы пачаў працу над гісторыяй Браслаўскага павета. Канчатковай мэтай было стварэнне спецыяльнага падручніка для настаўнікаў школ гэтага павета, каб яны маглі абаперці праграму па гісторыі на мясцовы падручнік, знаёмячы дзяцей з мінулым бліжэйшага, знаёмага ім наваколля.**

**Нечаканая як для ініцыятараў гэтага пачынання, так і для мяне, шматлікасці і разнастайнасць архіўных матэрыялаў пашырылі межы працы ў такой ступені, што плануемая спачатку на паўгады праца была падоўжана да года, рэальна ж заняла два гады. Выданне разраслося да тома, у якім было больш за 500 старонак.**

**Аднак нават двух гадоў не хапіла для поўнай апрацоўкі архіўных матэрыялаў, літаратурных крыніц, для рэцэнзавання рукапісу спецыялістамі, каб пазбегнуць хібаў. Аднак тэрмін падрыхтоўкі кнігі заканчваўся, выявіліся і іншыя акалічнасці. Усё гэта вымусіла выпусціць выданне ў свет у загадзя вызначаны тэрмін – чэрвень 1930 г.**

**...**

**Узброены вопытам двух гадоў, усведамляючы свае памылкі і магчымасці, перанёс сваю зацікаўленасць на ўсход, на Дзісенскі павет.**

Гедэман ужо вырашыў перабрацца ў Вільню і запланаваў пераезд на жнівень. Ён прасіў у фонда выдаць яму ў лік стыпендыі 400 – 500 злотых на пераезд, бо бягучыя выплаты ішлі на ўтрыманне сям'і: жонкі з маленькім сынам, дзьвюх дачок, брата жонкі, які вучыўся ў 7 класе гімназіі. О.Гедэман дапамагаў таксама маці, якая жыла ў маёнтку Казачызна, непадалёку ад возера Дрысвяты. "*Прыцісну́ты гэтым цяжарам,* – піша Гедэман, – *які адбірае ў мяне больш часу, чым навуковая дзейнасць.*"

У Вільні О.Гедэман меў не толькі лепшыя ўмовы для працы, але і больш магчымасці зарабіць. Напрыклад, ён выступаў з лекцыямі ва ўніверсітэце, у Таварыстве прыяцеляў навук, удзельнічаў у радыёперадачах. Захавалася шмат картак, атрыманых гісторыкам ад радыёстанцыі з пазначэннем часу перадач і назвамі тэм: "Граф Мануцці", "Даўнія ловы", "Дзвінскія справы", "Чарадзейства", "Вялікі браславянін (Т.Ваўжэцкі)", "Дзвінскі гандаль з Рыгай", "Пчалярства" і інш.

Шмат клопатаў О.Гедэман меў з выданнем сваіх кніг, для якіх трэба было шукаць сродкі. Выданне манаграфіі "Гісторыя Браслаўскага павета" абышлося ў 10 тысяч злотых. Гэту суму сам аўтар назваў вар'яцкай. Кніга пабачыла свет дзякуючы захадам браслаўскага старосты З.Янушкевіча, які дапамог прыцягнуць сродкі павета. На выданне грунтоўнай працы "Дзісна і Друя, магдэбургскія гарады" патрабавалася каля 8 тысяч злотых. Спачатку рукапісам зацікавілася вядомая дабрачынная арганізацыя "Каса імя Ю.Мяноўскага" з Варшавы, але пазней адмовіла аўтару ў падтрымцы. О.Гедэман прасіў дапамогі ў віленскага Таварыства прыяцеляў навук, у мясцовых уладі арганізацый, віленскага ваяводы, арганізацыі палякаў замежжа, але беспаспяхова. У некаторых выпадках не было нават адказаў. Сваё становішча ў гэты час О.Гедэман параўноўваў са становішчам Марціна Ідэна з рамана Джэка Лондана. Зноў дапамог Фонд нацыянальнай культуры, у які аўтар звярнуўся ўвосені 1933 года. Фонд накіраваў 4 тысячы злотых на рахунак Таварыства прыяцеляў навук і неўзабаве кніга выйшла як сёмы том даследванняў 3-й секцыі Таварыства. Ганарар О.Гедэмана склаў 1500 злотых. ФНК аказаў садзейнічанне і ў друкаванні кнігі "Глыбокае". Па хадайніцтву О.Гедэмана фонд выдаткаваў 300 злотых Глыбоцкаму аддзяленню Польскага краязнаўчага таварыства.



О.Гедэман.
Здымак 1930-х гг

З 1935 года О.Гедэман асноўную ўвагу надаваў падрыхтоўцы матэрыялаў па гісторыі Белавежскай пушчы. Гэта праца пачалася па ініцыятыве былога старосты Браслаўскага павета З.Янушкевіча, які быў пераведзены ў Бельскі павет на Беласточчыне, дзе размяшчалася пушча. У карэспандэнцыі О.Гедэмана ёсць звесткі, што Бельскі павет выдаткаваў гісторыку стыпендыю памерам 1200 злотых для заканчэння працы па гісторыі пушчы. О.Гедэман спяшаўся, працаваў вельмі інтэнсіўна і паспеў сабраць вялізны матэрыял. У гэты перыяд жонка Ядвіга пісала да маці Отана: "*...Ота як заўсёды ўвесь у працы. З-за сваёй Белай Вежы і завяшчанняў, якія ўжо друкуюцца, свету Божага не бачыць...*"

У адным з лістоў О.Гедэман з вялікай удзячнасцю згадвае Казіміра Прухніка, школьнага інспектара, які накіраваў настаўніка гісторыі на шлях даследванняў, апякаў падчас падрыхтоўкі першай кнігі. Гедэман і надалей падтрымліваў сувязі з К.Прухнікам. Аднак неўзабаве ў апошняга здарыліся непрыемнасці з прычыны палітычнай дзейнасці, ён быў нават высланы з Браслаўшчыны. Абвінавачванні закранулі і О.Гедэмана – маўляў, сябра Прухніка атрымліваў грошы нібыта на даследванні, а на самай справе перадаваў частку на палітычную агітацыю. О.Гедэман быў вымушаны апраўдвацца: "*...Нічога агульнага не маю з палітыкай, не маю для гэтага ані сілаў, ані жадання. Для мяне аднолькава блізкія ўсе палітычныя партыі...*" Даследчык раіў уважліва пачытаць яго кнігі, каб пераканацца ці напісаны яны "*...па замове якіхсьці палітычных плыняў...*"

Сярод карэспандэнтаў О.Гедэмана было шмат вядомых у той перыяд навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў, сярод якіх Г.Масціцкі (гісторык), А.Вісліцкі (аўтар папулярнай кнігі "Па рэках і азёрах Браслаўшчыны"), Р.Пшэздзецкі (літаратар, міністр замежных спраў), В.Рэвеньская (географ, аўтар працы "З антрапагеаграфіі Браслава"), Знамяроўская-Пруферава (этнограф), С.Гербст (гісторык), С.Кутшэба (гісторык, рэктар Кракаўскага ўніверсітэта), М.Ліманоўскі (географ, прафесар Віленскага ўніверсітэта, адзін з ініцыятараў праекта будаўніцтва порта ў Друі), М.Брэнштэйн (бібліёграф).

Пэўную цікавасць уяўляюць асобныя разрозненыя факты з біяграфіі даследчыка, якія ўдалося адшукаць у перапісцы. Вось некаторыя з іх:

- О.Гедэман не браў удзелу ў першай сусветнай вайне, бо меў дацкае грамадзянства;
- На момант прыезду ў Польшчу ў 1922 годзе О.Гедэман амаль не валодаў польскай мовай;
- У 1930 годзе падчас візіта прэзідэнта Польшчы І.Масціцкага ў Браслаў О.Гедэман уласнаручна ўручыў яму "Гісторыю Браслаўскага павета". У 1934 годзе гісторык даслаў прэзідэнту – вялікаму аматару прыроды і палявання, кнігу "Даўнія пушчы і воды";
- У выданні Дзісенскай гімназіі "Наш голас" у 1935 годзе быў змешчаны артыкул "Прафесар Гедэман";
- Вытрымкі з кнігі О.Гедэмана "Глыбокае" у 1936 годзе друкаваліся на старонках "Каляндара ўсходніх земляў";
- У 1938 годзе краязнаўчы часопіс "Наша зямля" (Ліда) да гадавіны смерці гісторыка змясціў артыкул, прысвечаны яго памяці.

У стосіку карэспандэнцыі О.Гедэмана, раскладзенай па храналагічнаму прынцыпу, апошняй ляжыць картачка, у якой паведамляецца, што 24 красавіка 1937 года ў Беластоку ў касцёле Святога Роха адбудзецца шлюб дачкі О.Гедэмана Гелены з Альфонсам Нівінскім. У гэты час выдатны даследчык гісторыі Браслаўшчыны быў ужо смяротна хворы. Менш чым праз месяц яго не стала.

**Кастусь Шыдлоўскі**

## З ліста О.Гедэмана. 13 чэрвеня 1933 г.

*Прыехаў у Польшчу ў 1922 г. зусім не валодаючы польскім пісьмом (без перабольшвання), аднак неўзабаве стаў польскім настаўнікам – з'ява ў той час распаўсюджаная. Думкі нараджаліся на расійскай мове, потым перакладаў іх на польскую... Тагачасны школьны інспектар К.Прухнік звярнуў на мяне ўвагу і перавёў у Браслаў (абудзіў у мяне цягу да творчасці і гэта на 40-х гадах жыцця!). К.Прухнік клапатаў за мяне ў міністэрстве, дапамог здабыць стыпендыю для падрыхтоўкі "Гісторыі Браслаўскага павета". Яму я ўдзячны за ўсё – кім зараз з'яўляюся, чым жыву, што кахаю.*

## З ліста О.Гедэмана да навучэнцаў Дзісенскай гімназіі. 16 сакавіка 1935 г. Гродна.

*...Я ўжо страціў фізічную маладосць, але, гледзячы на вас, захоўваю маладосць духу. Няхай сабе няўмольны Хронас пасівіў мае валасы і пакрыў маршчынамі твар, Душа яму непадуладная. Дбайце аб яе стане і не будуць для вас мець значэнне ні ўзрост, ні жыццёвыя нягоды, ні крызісы і г.д... Зараз пішу гісторыю Белавежскай пушчы, але зноў вярнуся да мінулага Прыдзвіння, каб напісаць гісторыю тутэйшага сялянства, паўстанняў 1831, 1863 гадоў, гісторыю часоў Касцюшкі. Працы ўвогуле акіян, а сілаў – кубачак, праўда, іх яшчэ хапае будаваць планы.*

Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве. Аддзел рукапісаў. Акс. 9301/1.

З ліста О.Гедэмана да Адама Віслоцкага, аўтара кнігі "Па рэках і азёрахБраслаўшчыны". 10 снежня 1934 г.

*...Ваша кніжка мяне асабліва ўзрушыла, бо Браслаўшчына была не чужой мне старонкай, якую я праўда пакінуў 6 гадоў таму, бадай што назаўсёды. Дзякуючы кніжцы "Па рэках і азёрах Браслаўшчыны", гэты край паўстаў перад маімі вачыма як жывы з яго прыродай і людзьмі так цудоўна (без перабольшвання) Вамі апісанымі. Рызыкну зрабіць адну заўвагу: ці не занадта па-"спартыўнаму" прадставілі Вы дзейнасць "Воднага таварыства"* ("Воднае таварыства" (Spółka Wodna) – арганізацыя, створаная напрыканцы 20-х гадоў па ініцыятыве Браслаўскага павятовага кіраўніцтва для правядзення прац па рэгуляцыі ўзроўню Браслаўскіх азёраў. – Рэд.). *Здаецца, Вы пабачылі вынікі дзейнасці гэтага таварыства не ў самы горшы момант.* ***Але пазней асушаныя берагі зарастуць і мясцовыя жыхары будуць у гэтых гушчарах пасвіць сваю жывёлу, як гэта ўжо неаднойчы было на раней асушаных тэрыторыях. Браслаў жа ніколі не будзе Венецыяй, такой мілай для вачэй і прывабнай для падарожніка.***

Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве. Аддзел рукапісаў. Акс. 9301/1.

# ГІСТОРЫЯ БРАСЛАЎСКАГА ПАВЕТА - ПЕРШАЯ КНІГА О.ГЕДЭМАНА

*...Кніжка ўтрымлівае шмат новых звестак, невядомых з іншых друкаваных крыніц. У гэтым яе сапраўдная карысць для навукі. Яе смела можна аднесці да найлепшых манаграфій, прысвечаных паветам, якія з'явіліся ў нашай літаратуры.*

*Станіслаў Кутшэба, гісторык, прафесар Кракаўскага ўніверсітэта. 1931 г.*



Партрэт Мікалая Лапацінскага

* * *

*... Гэта праца ўтрымлівае вельмі каштоўны матэрыял па гісторыі Літвы і не толькі ў межах аднаго павета, але і ўсёй краіны.*

*Генрык Масціцкі, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта. 1930 г.*

* * *

*... Гэта надзвычай каштоўная праца, якая грунтуецца на пераважна невядомых да гэтай пары рукапісных матэрыялах.*

*Рышард Мяніцкі, прафесар Віленскага ўніверсітэта.*





Старонка кнігі з выявамі пячаткі Браслаўскага павета і герба

* * *

*...Кніга настолькі цікавая, што ўзяўшы яе ў рукі, цяжка выпусціць... Усё тут паўстае перад намі ў кантэксце гісторыі, жыве, б'ецца пульсам здарэнняў, неаднойчы асвятляецца сапраўдным геройствам, ахвярнасцю і самаадданасцю... Колькі тут прыкладаў высакародства і адданасці сваёй Айчыне...*

*Здзіслаў Дэмбіцкі. Кур'ер Варшаўскі. 6. VIII. 1930 г.*

* * *

*... Найбольшай вартасцю кнігі з'яўляецца яе аб'ектыўнасць... Яе стыль ніколі не бывае слязлівым ці меладраматычным, але ён лёгкі як стыль сенсацыйнай аповесці.*

*Антон Высоцкі. "Нацыянальная Думка". № 33. 17. VII. 1930 г.*

* * *

*Кніга выклікае асаблівую сімпатыю. Яе чытаеш з прыемнасцю і без нуды. Такая асаблівасць з'яўляецца найлепшым і самым надзейным шляхам поспеху кнігі. Нават болей. Яна адкрывае вочы на той факт, што кожная часцінка зямлі жыве ў арганічных сувязях з усёй колькасцю бліжэйшага і больш далёкага атачэння. Знаёмства з гэтымі сувязямі пераконвае, што дзейнасць у найбліжэйшым атачэнні — у роднай вёсцы, мястэчку, павеце, найбольш набліжае да зорак, якія зззяюцьнад галавой кожнага чалавека.*

*Аляксандр Паткоўскі. 1930 г.*




Герб Друі, змешчаны ў кнізе

# *ХРОСНЫ БАЦЬКА ПЕРШАЙ КНІГІ*



**Зеліслаў Янушкевіч** (1897-1974) займаў пасаду старосты Браслаўскага павета ў *1923-1932* гг., потым быў пераведзены ў Бельскі павет. Быў добрым гаспадарнікам, шмат зрабіў для развіцця гаспадаркі Браслаўшчыны. Высока ацэньваў дзейнасць О.Гедэмана і аказваў яму дапамогу.

*Здымак 1930-х гадоў з фондаў Браслаўскага музея*

Аўтар выказвае ўдзячнасць браслаўскаму старосце Зеліславу Янушкевічу, які з уласцівай яму энергічнасцю не толькі здолеў зацікавіць працай шырокія слаі грамадства павета, дзякуючы чаму аўтару сталі даступныя шмат якія каштоўныя мясцовыя матэрыялы, але і акружыць чулым клопатам увесь працэс падрыхтоўкі кнігі. З.Янушкевіч быў сапраўды невычарпальны ў захадах, каб давесці працу да канца. Прынамсі, дзякуючы спадару старосце, Браслаўскі соймік выдаткаваў грошы на выданне кнігі. Аўтар прызнае, што без гэтай дапамогі наўрад ці ўбачыла б праца дзённае святло.

З прадмовы О.Гедэмана да «Гісторыі Браслаўскага павета»

Працу прысвячаю бельскаму старосце Зеліславу Янушкевічу, як даступнае выражэнне пачуцця ўдзячнасці і прыязні да чалавека, які шчасліва спалучае паспяховую працу на карысць грамадства з дабрынёй і высакароднасцю сэрца і гарачым замілаваннем да Пушч і Вод. Яшчэ калісьці Тургенеў казаў, што сапраўдны паляўнічы з'яўляецца сінонімам найлепшых якасцей чалавека. Гэтыя якасці ў адносінах да асобы аўтара гадамі былі скіраваны на падтрымку яго навуковай дзейнасці.

З прадмовы О.Гедэмана да «Даўнія пушчы і воды»

# УНІКАЛЬНЫ ЭКЗЭМПЛЯР

У сакавіку 1998 года Станіслаў Пятушка, нараджэнец Браслаўшчыны, які зараз жыве ў Варшаве, са згоды Ядзвігі Гедэман перадаў у Браслаў аўтарскі экзэмпляр манаграфіі "Гісторыя Браслаўскага павета". Пры перадачы архіва О.Гедэмана ў Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве гэту кнігу вярнулі назад і жонка гісторыка падаравала яе С.Пятушку, які працаваў над біяграфіяй Гедэмана і дапамагаў рыхтаваць архіў да перадачы ў бібліятэку.




У адрозненне ад серыйных экзэмпляраў кнігі аўтарскі экзэмпляр мае цвёрдую вокладку. На тытульным лісце бачым аўтограф Гедэмана, побач з якім яго рукой напісана "не выдаецца". Тут жа гісторык запісваў месцы свайго жыхарства:

Браслаў, вул.Пілсудскага, 3;
Вільня, вул.Троцкая,19., кв.3;
Друя, вул.Курляндская, 27;
Вільня (Кальварыйская) зав.Сарацэнскі, 14, кв.1[A];
Вільня Рыдз – Сміглы.

На старонках кнігі – розныя паметкі аўтара, выпраўленні, удакладненні, падкрэсліванні, дадаткі, заўвагі. Усё гэта надае кнізе мемарыяльнае значэнне, але ўнікальнай яе робіць іншая акалічнасць. Па просьбе аўтара да друкаванага тэкста былі падшыты чыстыя аркушы паперы. Яны складаюць прыблізна трэцюю частку аб'ёма тома. Гедэман меркаваў запісваць на гэтыя лісты матэрыялы, дапаўняючы і ўдакладняю-

**З прадмовы О.Гедэмана да манаграфіі "Гісторыя Браслаўскага павета".**

**...Калі з верасня 1928 года аўтар ужо мог, дзякуючы клопатам былога школьнага інспектара Казіміра Прухніка і адпаведна водпуску, выдзеленага Міністэрствам адукацыі, распачаць больш шырокія архіўныя пошукі – адкрыўся перад ім такі цікавы факт: вялізная колькасць фаліянтаў, прыгожа аздобленых і сістэматызаваных, якія былі даступныя расійскім гісторыкам звыш 100 гадоў – у значнай сваёй частцы не былі даследаваны. Калі казаць аб Браслаўскім павеце, то за выключэннем фрагментаў, апрацаваных неахайна, несумненна і часткова, астатняе ляжыць цалінай. Яшчэ больш багата прадстаўлены ў архіве паветы Ашмянскі, Вілейскі, Лідэскі, Троцкі, Дзісенскі, – яны даюць матэрыял для выдатнай манаграфіі. Слушна адзначаў сп.Эдвард Шчарбіцкі, аўтар "1831 года ў Ашмянскім павеце", што павінны знайсціся даследчыкі гісторыі асобных паветаў, якія б скарысталі матэрыялы да гэтага часу некранутыя, таму што толькі іх папярэднія працы даюць магчымасць сінтэзу агульнай ... гісторыі Віленшчыны на навуковай падставе. Іншага ж накірунку былі пэўныя расійскія выданні даўніх актаў, у якіх дастаткова зазірнуць, каб зразумець, якую мэту ставілі перад сабой аўтары: з мільёнаў актаў выбіраліся сотні, якія сведчаць аб цэрквах, пісаных кірыліцай, ці аб шляхецкіх буянствах і праявах анархіі. Іх сапраўды было нямала, аднак ці на іх фоне развівалася магутнасць Ягелонаў? Відавочна, што аўтар мае на ўвазе не цэлую плеяду вялікіх расійскіх гісторыкаў, якія пакінулі свету выдатныя творы, а тых спецыфічных "гісторыкаў", якія хапаліся за канцэпцыю заходнерускага і праваслаўнага краю з дапамогай меркаванняў, якія нічога агульнага з навукай не маюць.**

**Гэтыя словы аб архівах няхай паслужаць заахвочваннем для маладых даследчыкаў, і хай іх доўгая праца не адштурхне. Вынік выдатны – гарантуецца.**



**Рукапісны аркуш дадаткаў**

чыя змест кнігі, якія маглі спатрэбіцца пры перавыданні першай манаграфіі.

О.Гедэману ўдалося запоўніць толькі невялікую частку лістоў. На 76 старонках дробным старанным почыркам даследчыка занесена 549 дадаткаў. У адных выпадках гэта – пазначэнні архіўных шыфраў з кароткім апісаннем сутнасці выяўленых матэрыялаў, у другіх – цытаты ці выпіскі. Усе дадаткі датычацца Браслаўшчыны. Асобна запоўнена яшчэ 8 старонак. На іх Гедэман занатоўваў матэрыял, які, на яго думку, мог спатрэбіцца для іншых выданняў. Ён датычыцца розных мясцовасцей (пераважна Вільні). Даволі многа выпісак па гісторыі сям'і Пілсудскага. Звяртае ўвагу выпіска, якая ўтрымлівае звесткі пра аднафамільца даследчыка і жыхара Брэста, злотніка Юзафа Гедэмана, які згадваецца ў канцы XVIII ст.

Дадаткі, напісаныя О.Гедэманам, – гэта сапраўдны скарб для даследчыкаў гісторыі Браслаўшчыны. Яны даюць мноства невядомых фактаў, а таксама з'яўляюцца цудоўным даведнікам па віленскіх архівах. Матэрыялы дадаткаў былі скарыстаны пры падрыхтоўцы некалькі томікаў "Браслаўскіх сшыткаў", некаторых іншых выданняў.

Такім чынам, унікальны экзэмпляр дапамагае даследваць мінуўшчыну Браслаўшчыны, пашыраць і паглыбляць тую справу, якой аддаў сваё жыццё О.Гедэман.

**Кастусь Шыдлоўскі**, навуковы супрацоўнік
гістарычна-краязнаўчага музея

* * *

### З уступу дырэктара Дзяржаўнага архіва ў Вільні Вацлава Гізберта-Студніцкага да кнігі О.Гедэмана "Гісторыя Браслаўскага павета".

*"Гісторыя Браслаўскага павета" — гэта праца О.Гедэмана з'яўляецца першай манаграфіяй пра адзін з паветаў былога Вялікага княства Літоўскага, якая абапіраецца на раней недаступны матэрыял Віленскага дзяржаўнага архіва. ...*

*Заслугай О.Гедэмана з'яўляецца і тое, што ён здолеў дабрацца да прыватных архіваў і збораў. Як бачна са спасылак, ён карыстаўся карыснейшым архівам Лапацінскіх у Сар'і, смолвенскім архівам, іншымі прыватнымі зборамі. Кніжку аздабляе каштоўны ілюстрацыйны матэрыял, які ў большай частцы раней не публікаваўся. Ён таксама ў асноўным паходзіць з прыватных збораў.*

*...Спадар Отан Хедэман пачаў сваю працу над манаграфіяй Браслаўскага павета ў Дзяржаўным архіве ў Вільні ( як гэта вынікае з запісаў на асоб, якія займаюцца навуковымі даследваннямі) 8 ліпеня 1926 г. Працаваў з перапынкамі паводле маіх падлікаў каля 400 дзён і вечароў архіўных. Як бачна са шматлікіх шчыльна запоўненых лістоў патрабаванняў на архіўныя акты і фаліянты, сп. О.Хедэман вельмі добрасумленна выкарыстаў увесь матэрыял, які датычыцца Браслаўскага павета ў Дзяржаўным архіве у Вільні.*

*Такі багаты дакументальны матэрыял, знойдзены сп. Хедэманам, надае **вечную каштоўнасць** яго манаграфіі Браслаўскага павета, якая падобна як і гістарычная манаграфія Ю.Крышэўскага "Вільня" — і зараз, і нават праз колькі дзесяткаў гадоў, будзе ў выкарыстанні ва ўсіх тых, хто сур'ёзна цікавіцца мінулым Віленшчыны.*

*Таксама як і "Слоўнік Геаграфічны" гэта кніга будзе, дзякуючы выкарыстанню аўтарам шматлікіх крыніц, раней невядомых, адыгрываць ролю дадатковага тому ўдакладненняў і дадаткаў адносна шмат якіх мясцовасцей Браслаўскага павета.*

*Зараз вітаю ў асобе аўтара піянера навукова апрацаванай, абапіраючайся на дакументальныя крыніцы гісторыі Браслаўскага павета.*

*Хацелася б, каб у спадара Отана Хедэмана хутчэй знайшліся паслядоўнікі, якія б такім самым замілаваннем да мінулага, прагай да працы адначасова і вытрымкай стварылі падобныя дакументальныя і мастацкія манаграфіі іншых паветаў у даўніх гістарычных межах нашай краіны.*




**Герб Пераброддзя, змешчаны ў кнізе**

### З прадмовы О.Гедэмана да кнігі "Гісторыя Браслаўскага павета".

**...Аўтар у поўнай меры ўсведамляе, якую цяжкую працу ён распачаў, наколькі далёка яна да дасканаласці, наколькі быў ён абмежаваны часам, прабеламі сваёй адукацыі. Тым не менш, ён смела карчаваў некранутую пушчу, каб іншыя хутчэй маглі загладзіць няроўнасці і засеяць раллю зярняткамі золата, якія дадуць багаты плён – пазнанне нашай мінуўшчыны.**

**Адну толькі прынцыпіяльную вартасць хацеў бы падкрэсліць аўтар найбольш выразна: гэта праца абапіраецца на крыніцы, якія ні разу, ні ў якім выпадку не хацеў аўтар вытлумачваць у кірунку асабістых сімпатый і антыпатый.**

### З прадмовы О.Гедэмана да кнігі "Гісторыя Браслаўскага павета".

**Занадта мала меў наш павет магчымасці для развіцця духоўных пачаткаў, занадта меў суровае жыццё, занадта быў выстаўлены на знішчэнне, якое яму ўвесь час пагражала. Бо ўся яго гісторыя была напоўнена безупынным змаганнем за існаванне, альбо загойваннем нанесеных ранаў, ці ў лепшым выпадку кароткімі перыядамі спакою.**

**У такіх умовах безыменныя грамады браслаўцаў стагоддзямі складалі сваё жыццё.**

# АРХІЎ ОТАНА ГЕДЭМАНА Ў НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ Ў ВАРШАВЕ

Матэрыялы да кніг О.Гедэмана, яго перапіску доўгі час захоўвала жонка гісторыка Ядвіга Гедэман. Пазней яна падрыхтавала гэтыя паперы для перадачы ў Нацыянальную бібліятэку ў Варшаве.

Цяпер архіў О.Гедэмана зберагаецца ў Аддзеле Рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі, які размяшчаецца ў палацы Красінскіх, пад шыфрам Акс 9301 – 9304. Архіў складаецца з чатырох комплексаў.

Першы комплекс – гэта карэспандэнцыя О.Гедэмана. Пераважае перапіска, якая датычыцца кніг даследчыка, іх выдання, навуковай дзейнасці. (Падрабязны агляд карэспандэнцыі О.Гедэмана прапанаваны ў асобным артыкуле гэтага нумара – Рэд.)

Другі комплекс называецца "Brasławica". Ён уяўляе сабой разнастайныя архіўныя выпіскі, зробленыя ў 1928 – 1930 гг. падчас працы над першай манаграфіяй, якія змешчаны ў даволі тоўстым сшытку. Утрымліваюцца выпіскі з дакументаў XVII – XIX стст. Некаторыя з гэтых дакументаў і зараз зберагаюцца ў дзяржаўных архівах, лёс некаторых невядомы. Сярод найбольш цікавых дакументаў: Інвентары Дрысвяцкага ключа 1682 г., 1762 г., Акт Генеральнай канфедэрацыі Браслаўскага павета 1771 г., Спіс насельнікаў Браслаўскага дэканата 1744 г., Спіс шляхты Браслаўскага павета 1667 г., Спіс маёмасці Лапацінскіх 1803 г., Пасольская інструкцыя Браслаўскага павета ад 18 жніўня 1788 г., Люстрацыі Браслаўскага павета 1775 г., 1789 г., Акт універсальны ідзскім яўрэям 1769 г.



Варшава. Ратуша.
*Паштоўка 20-30 гг. XX ст.*
*з калекцыі Браслаўскага музе*

Трэці комплекс складаецца з архіўных выпісак, якія датычацца Дзісеншчыны. Сярод дакументаў: Тарыфа дымаў Дзісенскага павета 1775 г., Інвентар маёнтка Акунёва 1796 г., Дакумент аб размежаванні Глыбокага і Ваўкалаты 1555 г., Справа Зяновічаў з ксяндзамі 1770 г., Справа аб даносе на ксяндзоў кармелітаў у сувязі з паўстаннем 1831 г.

Чацвёрты, апошні, комплекс уяўляе сабой тры тоўстыя пачкі картак (прыблізна каля 1,5 тысяч у кожнай). На кожнай картцы вельмі дробным почыркам змешчаны разнастайныя выпіскі да надрукаваных і рыхтуемых кніг О.Гедэмана. У першай пачцы выпіскі датычацца ў асноўным Дзісны і Друі. Напрыклад, ёсць падрабязныя выпіскі з Інвентара Друі 1643 г., візітацый друйскага кляштара бернардзінцаў 1817 г., друйскай парафіяльнай школы пры кляштары дамініканцаў 1810 г. і інш. У другой пачцы матэрыялы таксама ў асноўным датычацца Дзісенскага рэгіёна. Ёсць звесткі аб Друі сярэдзіны XIX ст., у прыватнасці, пра пажар 1838 г., апісанне храмаў 1848 г., візітацый касцёлаў пач. XIX ст., пра яўрэйскае насельніцтва горада, рамеснікаў, гандляроў, прывілей Друі 1843 г. і г.д. Выпіскі з трэцяй пачкі датычацца розных населеных пунктаў Браслаўшчыны – Браслава (XVI – XVIII стст.), Замошша, Відзаў, Опсы і інш.

Такім чынам, архіў О.Гедэмана ў Нацыянальнай бібліятэцы ўтрымлівае матэрыялы, якія датычацца жыцця, дзейнасці гісторыка, а таксама і разнастайныя матэрыялы па мінуламу Браслаўшчыны.

**Станіслаў Пятушка**, Варшава

## З прадмовы О.Гедэмана да кнігі "Завяшчанні Браслаўска-Дзісенскія XVII – XVIII стагоддзяў як гістарычная крыніца".

OTTON HEDEMANN

TESTAMENTY

BRASŁAWSKO-DZIŚNIEŃSKIE XVII–XVIII WIEKU JAKO ŹRÓDŁO HISTORYCZNE

WILNO 1935

**...Думка даследчыка імкнецца з...[гістарычных] актаў зразумець асобнага чалавека, унікнуць у матывы яго дзейнасці. Удаецца гэта з вялікімі цяжкасцямі – трэба вызваліць гэтага чалавека з-пад напластаванняў яго непасрэднага акружэння і больш шырокіх уплываў. Не мае значэння ці яны ўзвышаюць чалавека (трыбуна сойму, шум бітвы), ці прыніжаюць яго (гвалт заезду, прага да грошай). У гэтых выпадках заўсёды і ўсюды чалавек не з'яўляецца самім сабой – узносіцца пад нябёсы ці падае на карачкі.**

**Зусім па-іншаму мы ацэньваем завяшчанні. Звычайна іх складае самотны чалавек у акружэнні сцен хаты, у якой нарадзіўся і пазнаў шчасце і клопаты стварэння сям'і. Піша гэты дакумент сярод месца дзейнасці ўсяго свайго жыцця. Піша не для сябе, а для нашчадкаў. Піша... у асаблівым настроі, калі сплываюць з яго зямная мітусня, клопаты і драбяза, якія так часта засланялі ад яго сапраўдную прыгажосць жыцця, так часам і не ўбачаную. Пры гэтым астатнім лісце чалавек нібыта азіраецца на пройдзены шлях, падводзіць рахунак сумлення з мінулым і адначасова ўглядаецца ў будучыню, у таямніцу, якую ніхто не разгадаў і не разгадае.**



Паштоўка з картасхемай Браслаўскіх азёраў, выдадзеная краязнаўчым таварыствам у Браславе. 30-я гг. XX ст
*З калекцыі Браслаўскага музея*





# Публікацыі пра Отана Гедэмана


* О.Гедэман. Да 115-годдзя з дня нараджэння і 65-годдзя з дня смерці. Буклет. Браслаўскае краязнаўчае таварыства. 2002
* П.Казлоўскі. О.Гедэман. Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т.3. Мн., 1971. С.413
* Г.Каханоўскі. О.Гедэман. Беларуская Гістарычная Энцыклапедыя. Т.2. Мн., 1994. С.502
* Г.Каханоўскі. О.Гедэман. Беларуская Энцыклапедыя. Т.5. Мн., 1997. С.132
* К.Шыдлоўскі. Даследчык гісторыі Браслаўшчыны. Браслаўская звязда, 24 лістапада 1988 г.
* К.Шыдлоўскі. Даследчык гісторыі Браслаўшчыны. Памяць. Браслаўскі р-н. Мн., 1998. С.653-654
* К.Шыдлоўскі. Выдатны даследчык гісторыі Паддзвіння. Памяць. Мёрскі р-н. Мн., 1998. С.550-552
* Antoniewicz. O.Hedemann. Rocznik Białostocki. T.III. Białystok. 1962. S.560-563
* J.Bunto. Badacz przeszłości Brasławszczyzny. Głos z nad Niemna. 26 maja-1 czerwca. 1997
* O.Hedemann. Słownik historyków polskich. Warszawa. 1994. S.178
* S.Herbst. O.Hedemann. Polski słownik biograficzny. T IX/3, zeszyt 42. 1961. S.333-334
* Historyk Podzwinia Otton Hedemann (29.IV.1887 – 16.V.1937). Nekrolog. Ziemia. 1937. №№ 4-6. S. 100-101
* R.Mienicki. Otto Hedemann (29.IV.1887 – 16.V.1937). Nekrolog. Wilno. 1937
* M.Milinkiewicz.O.Hedemann. Sylwetki Brasławian zasłużonych dla małej i wielkiej Ojczyzny. Cz.1. Warszawa.1998. S.44-51
* A.Snieżko.Otton Hedemann i jego prace historyczne. Ziemia Lidzka. 1938. №№ 5-6. S.79-81




Браслаў і Браслаўшчыну О.Гедэман палюбіў назаўсёды. Від з Замкавай Гары.

*Паштоўка, выпушчаная краязнаўчым таварыствам у Браславе. 1930-я гады*



**На фотаздымку 30-х гадоў – магіла О.Гедэмана на пратэстанцкіх могілках у Вільні. Нам не ўдалося высветліць лёс пахавання. Ёсць інфармацыя, што могілкі былі цалкам знішчаны ў пасляваенныя гады. Але дакладна праінфармаваць чытача мы зможам толькі пасля правядзення спецыяльных пошукаў, якія яшчэ наперадзе.**


« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.



Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл./ факс 21-4-28
E-mail: bkt@bsmus.lingvo.vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко, Валеры Зінкевіч



Выдадзена на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» (Наваполацк) пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»